ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 30
(2588)

30 ліпеня 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

## УЗОР ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

### Да 200-годдзя з дня нараджэння капітана 1-га рангу Чарнаморскага флоту Аляксандра КАЗАРСКАГА

**У легендарным Севастопалі дзесяткі цудоўных помнікаў, але самы першы з іх быў устаноўлены ў 1834 годзе на Матроскім бульвары. На ім лаканічны, але поўны глыбокага сэнсу надпіс: "КАЗАРСКАМУ. УЗОР ДЛЯ НАШЧАДКАЎ".**

Гэтыззяючы золатам надпіс аказаўся прарочым — помнік стаў сведкам многіх падзей. Непадалёку ад яго чарнаморцы з нахімаўскай эскадры ў верасні 1854 года затапілі свае караблі (6 лінкораў і 2 фрэгаты), каб перакрыць варожаму англа-французска-турэцкаму флоту ўваход у Ахтэрскую бухту. Ад падножжа помніка быў добра відаць чырвоны флаг над крэйсерам "Ачакаў", узняты лейтэнантам Шмітам у 1905 годзе. У гады Вялікай Айчыннай вайны Чарнаморскі флот стаў на абарону бастыёна рускай марской славы, і помнік Казарскаму маўкліва напамінаў, што на свяшчэннай севастопальскай зямлі стаяць толькі насмерць. Вось ужо больш паўтара стагоддзя ён нібыта павучае — будзьце гэтак жа вернымі Айчыне, як былі верны ёй Казарскі, камандзір брыга "Меркурый"!.

"Меркурый" — 18-гарматны брыг змагаўся з двума лінейнымі караблямі турак, узброенымі 184 гарматамі. Мужнасць і бліскучае майстэрства камандзіра, гераізм матросаў і афіцэраў аказаліся больш важкай зброяй. Сваімі ядрамі "Меркурый" нанёс цяжкія пашкоджанні караблям праціўніка, вывеў іх са строю і прымусіў легчы ў дрэйф. Два лінейныя караблі і брыг! Гісторыя ваенна-марскіх баёў ніколі не ведала нічога падобнага. І невыпадкова адзін з сучаснікаў бою пісаў пра подзвіг "Меркурыя": "В летописях мореплавания сие неслыханное, невероятное и как бы невозможное событие есть еще первое, единственное и никогда еще небывалое. Но нам дивиться нечего — на бриге были россияне!".

...Туманнай майскай раніцай 1829 года да Басфора спяшаўся невялікі рускі брыг. На бушпрыце парусніка (нахіленым драўляным брусе наперадзе насавой часткі корпуса) красаваўся алегарычны Меркурый — старажытнарымскі бог, заступнік падарожніка[illegible]о імем, якое палюбілася ў расійскім флоце з часоў Пятра І, і быў названы гэты невялікі карабель, пабудаваны вядомым чарнаморскім інжынерам таго часу Іванам Осьміным.

Брыг "Меркурый" (даўжыня корпуса 29,6 метра), пабудаваны з моцнага крымскага дубу і спушчаны на ваду 7 мая 1820 года, прызначаўся для дазораў і разведкі. На палубе стаялі васемнаццаць 24-фунтавых каранад — гармат з кароткім ствалом, што служылі для нанясення непрыяцелю цяжкіх удараў на блізкай адлегласці.

Праз 8 гадоў на юце "Меркурыя" стаяў невысокі камандзір з валявым хударлявым тварам. Аляксандр Казарскі ўглядаўся ў наплываючую паласу туману, які нібыта заслонай закрываў гарызонт. Ён быў малады, але камандаваў упэўнена і цвёрда стаяў на хісткай палубе. Усё ў яго аблічча гаварыла пра тое, што ён даўно параднiўся з морам.

Упершыню Казарскі трапіў на баявы карабель яшчэ падлеткам. Караблі заставаліся на ўсё жыццё яго адзінай любоўю, нягледзячы на тое, што нарадзіўся Аляксандр далёка-далёка ад мора — у мястэчку Дуброўна пад Оршай. Бацька, Іван Кузьміч Казарскі, кіраваў маёнткам князя Любамірск[illegible] Чалавек справядлівы і непадкупны, ён не меў ніякіх сродкаў, акрамя свайго жалавання, і, нягледзячы на "высокае" становішча княжаскага кіраўніка, паважаў простых людзей. Маці, Таццяна Гаўрылаўна, была жанчынай добрай і чада[illegible]бівай — у сям'і Казарскіх было пяцёра дзяцей. Аляксандр быў старэйшым сынам.



Летам 1808 года, калі Сашы ледзь мінула 10 год, з Масквы ў Дуброўна заехаў далёкі сваяк Івана Кузьміча — надворны саветнік Васіль Сямёнавіч Казарскі, які адпраўляўся да новага месца службы ў Нікалаеў на Чорным моры. Да таго часу Саша быў абучаны прыходскім свяшчэннікам закону Божаму, рускай грамаце ды чатыром арыфметычным дзеянням. Уплывовы сваяк "прыстроіў" хлопчыка ў Нікала-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Вось такія арыгінальныя вазачкі робіць сваімі рукамі народная майстрыха з Докшыцкага Дома рамёстваў Таццяна ГАВАРЦОВА.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА. БелТА.**

ЯКОЕ ЗЕРНЕ — ТАКІ ЎРАДЖАЙ

## ШТО МОГУЦЬ НАШЫ СЕЛЕКЦЫЯНЕРЫ

Як паказвае сусветны вопыт, ад 30 да 50 працэнтаў поспеху ў складаемых ураджаю залежыць ад сорту і якасці насення.

Сёння ў Беларусі раяніравана 483 сарты сельскагаспадарчых культур. Для таго, каб атрымаць новы прадукцыйны сорт, часам трэба да 10 гадоў карпатлівай працы, але ўсяго толькі адзін сорт азімага жыта "Белта", выведзены беларускімі селекцыянерамі, дазволіў краіне атрымаць прыбаўку збожжа да паўмільёна тон у год.

Сістэма насенняводства існуе ў Беларусі ўжо больш шасцідзесяці гадоў і ў свой час лічылася лепшай і найбольш развітай на тэрыторыі ўсяго Савецкага Саюза. Сёння ў яе задачы ўваходзіць стварэнне высокапрадукцыйных сартоў, укараненне іх у вытворчасць, кантроль за захаваннем каштоўных гаспадарча-біялагічных якасцей, а таксама забеспячэнне вытворчасці насення і пасадачнага матэрыялу ў неабходных аб'ёмах, стварэнне страхавых і дзяржаўных запасаў насення ў рэспубліцы. Сістэму насенняводства складаюць навукова-даследчыя ўстановы, элітавытворныя і насенняводчыя гаспадаркі, нарыхтоўчыя і гандлёвыя прадпрыемствы, сортавыпрабавальныя станцыі, насенныя інспекцыі і іншыя суб'екты насенняводства. Рэнтабельнасць вытворчасці насення збожжавых і зернебабовых культур у Беларусі складае ад 60 да 80 працэнтаў.

Новыя сарты сельскагаспадарчых і іншых культур ствараюцца навукова-даследчымі ўстановамі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Аграрнай акадэміі навук. У БелНДІ земляробства і кармоў за апошнія тры гады выведзена і раяніравана больш 20 сартоў сельскагаспадарчых культур. Сярод выведзеных сартоў бульбы карыстаюцца асаблівым попытам "Альтаір", "Скарб", "Выток" і іншыя. Пасля дзяржаўнага сортавыпрабавання новым насеннем і пасадачным матэрыялам забяспечваюцца эксперыментальныя базы і элітныя гаспа-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ЗГАДВАЮЧЫ ЖЫЦЦЁ ЮРЫЯ КАРАЧУНА

## НА АЛТАР КУЛЬТУРЫ

Дваццаць лепшых гадоў свайго жыцця аддаў музейнай справе Юрый Карачун. З 1977 года і да апошніх дзён ён працаваў дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея. На долю яго папярэдніцы, нястомнай збіральніцы і таленавітай мастацтвазнаўцы Алены Аладавай, выпала руцінная праца па адраджэнні калекцыі Дзяржаўнай карціннай галерэі, разрабаванай у гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1957 годзе галерэя была ператворана ў музей. Юры Карачун прыняў па-сутнасці створаны нанова фонд, які на той час налічваў больш за 15 тысяч экспанатаў. Здавалася, што новаму дырэктару лёсам было наканавана больш спакойнае жыццё. Але няўрымслівая натура Юрыя Аляксандравіча, тонкага знаўцы музейнай справы, не ведала спакою. Важнае месца ў ягонай дзейнасці на пасадзе дырэктара займала прапаганда розных відаў беларускага мастацтва, навуковая праца, захаванне унікальных помнікаў архітэктуры і побыту, вяртанне на Радзіму імёнаў тых творцаў, якія па волі лёсу апынуліся за яе межамі.

Пад кіраўніцтвам Ю. Карачуна вялася паўсядзённая карпатлівая работа па ўзбагачэнні фондаў музея, што ў прыватнасці дало магчымасць з часам значна расшырыць раздзел беларускага мастацтва. Чым больш збіралася экспанатаў, тым вастрэй адчувалася неабходнасць у новых плошчах, новых памяшканнях. Таму, бадай, што з першага дня адным з пастаянных клопатаў новага дырэктара быў клопат гаспадарчы — пра будаўніцтва другой чаргі музея. Фактычна ў 1957 годзе была пабудавана толькі частка музея: яго прыгожы фасад, парадная лесвіца і некалькі залаў, а другая, галоўная, — заставалася толькі на паперы. Юры Аляк-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*«СЛАВЯНСКІ БАЗАР»*



22 ліпеня ў Віцебску адкрыўся шырокавядомы, ужо традыцыйны "Славянскі базар" — Міжнародны фестываль мастацтваў. На яго ўрачыстае адкрыццё прыбыў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Прэзідэнт Беларусі выступіў са зваротам да ўдзельнікаў фестывалю.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў аэрапорце Віцебска.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ і Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

*АПЫТАННІ*

## БОЛЬШАСЦЬ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ ПАДТРЫМЛІВАЕ ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНЫ КУРС ДЗЯРЖАВЫ

Большасць грамадзян Беларусі адабрае знешнепалітычны курс, які ажыццяўляе беларуская дзяржава. Такі галоўны вывад сацыялагічнага апытання, праведзенага 14—15 ліпеня гэтага года сярод жыхароў Мінска і Мінскай вобласці Інстытутам сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

На першае і самае галоўнае пытанне анкеты "Вашы адносіны да знешняй палітыкі, якую праводзіць Рэспубліка Беларусь", 72,4 працэнта рэспандэнтаў адказалі станоўча, 12,6 працэнта — адмоўна, а 15 працэнтам было цяжка адказаць на гэта пытанне.

Дыпламатычныя канфлікты, звязаныя з выездам паслоў з комплексу "Дразды" і візітам беларускай дэлегацыі на форум у Кран-Мантана не змянілі гэтыя настроі. Так, 64,2 працэнта рэспандэнтаў мяркуюць, што ініцыятарамі сітуацыі вакол пасольскіх рэзідэнцый з'яўляюцца самі паслы, і толькі 21,5 працэнта лічаць вінаватымі прадстаўнікоў улады. На пытанне, "Што, на ваш погляд, адбылося ў Кран-Мантана?", пераважная большасць апытаных (74,2 працэнта) адказалі, што гэта была палітычная правакацыя.

Больш як палавіна рэспандэнтаў (58,4 працэнта) прытрымліваюцца думкі, што Захад праводзіць у адносінах да Беларусі палітыку двайных стандартаў. Не падзяляюць такі пункт гледжання 26,4 працэнта апытаных.

Найбольшае разыходжанне пазіцый сярод жыхароў рэспублікі выклікала пытанне аб ацэнцы дзеянняў беларускага кіраўніцтва па вываду з тэрыторыі Беларусі ядзернай зброі. Пагроза з боку Захаду, на думку многіх, даволі актуальная і цяпер. 46,8 працэнта апытаных выказаліся за тое, што ядзерную зброю не варта было выводзіць з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. 42,3 працэнта пацвердзілі правільнасць дзеянняў беларускага кіраўніцтва. А 10,9 працэнта вагаліся з адказам на гэта пытанне.

Таксама можна адзначыць, што ў масавай свядомасці да гэтага часу дакладна не вызначаны знешнепалітычныя прыярытэты дзяржаўнай палітыкі. З аднаго боку, 22,6 працэнта апытаных лічаць, што Беларусь павінна ўваходзіць толькі ў СНД. У той жа час, 14,8 працэнта рэспандэнтаў мяркуюць, што наша краіна павінна стаць паўнапраўным членам Еўрапейскага саюза. За ўваходжанне Рэспублікі Беларусь у абедзве гэтыя арганізацыі выступаюць 49,4 працэнта апытаных грамадзян краіны.

*ДОБРУШСКІ ФАРФОР*

Закрытае акцыянернае таварыства "Добрушскі фарфоравы завод" адзначыла сваё 20-годдзе. За гэтыя гады прадпрыемства не толькі на ўнутраным рынку заявіла аб сабе, як аб вытворцы прыгожага посуду, але і атрымала вядомасць у многіх рэгіёнах былога СССР. Адна з апошніх распрацовак мастакоў эксперыментальнай лабараторыі прадпрыемства, распісаны кобальтам чайны набор "Падарункавы", які падрыхтаваны спецыяльна да юбілею прадпрыемства.



НА ЗДЫМКУ: роспіс эксперыментальнай партыі чайнага набора "Падарункавы" выконвае жывапісец Кацярына КАВАЛЕНКА.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

*ЭСТОНІЯ — БЕЛАРУСЬ*

## ТРАНЗІТ

Рашэнне аб правядзенні двухбаковых перагавораў з шэрагам краін СНД, што не маюць выхаду да мора, прынята эстонскім урадам. У лік будучых патэнцыяльных партнёраў Эстоніі ўваходзіць і Беларусь. Мяркуецца, што грузапатокі ў эстонскія порты пойдуць па шасейных і чыгуначных дарогах. Дагавор аб чыгуначным транспарце з Беларуссю дазволіць Эстоніі разгрузіць асноўныя чыгуначныя артэрыі, што звязваюць яе з Расіяй.

*РАДОВІШЧА МЕЛУ*



Мелавы кар'ер дзяржпрадпрыемства "Маларытабудматэрыялы" створаны на базе найбуйнейшага месцанараджэння мелу і пяску ў Еўропе. Тут здабываюць высокаякасны будаўнічы пясок, што прымяняецца для вырабу фільтраў водазабораў, электродаў, шкла і будаўнічых работ. З глыбіні трох метраў пачынаюцца паклады мелу, які якасна адрозніваецца ад іншых, што здабываюцца ў Беларусі, сваімі фізіка-хімічнымі ўласцівасцямі. Гэта дазваляе выкарыстаць яго і для вытворчасці высокаякаснай вапны.

На будаўніцтва комплексу затрачана пяць мільёнаў долараў, а эканамічны эфект па падліках эканамістаў складзе трынаццаць мільёнаў долараў у год.

НА ЗДЫМКУ: ідуць работы на кар'еры.

Фота Рамана КАБЯКА, Бе

*"Мы ведаем, што сёння Германія ўжо выплаціла дзесяткі мільярдаў долараў у выглядзе кампенсацый за ахвяры загінуўшых у час вайны. Гэта яе справа. Хаця і сёння спроба дабіц ца кампенсацыі, у тым ліку і шляхам патраба ванняў звароту "нацысцкага золата" толькі адной часткі ахвяр фашызму, пазбаўлена юрыдычнай і маральнай падставы.*

*Мы не вылічваем наш боль грашыма, а толькі гаворым, што трэба больш часу, каб дараваць і забыць. У якасці жэсту прымірэння нам прапаноўваюць адкрыць мемарыяльныя могілкі для ўсіх акупантаў, якія засталіся пахаванымі ў нашай зямлі ў 1941—1944 гадах. Мы згодны з неабходнасцю адкрыць для загінуўшых адно месца памінання і смутку, але не можам забыць, што гэта не ахвяры фашызму, а фашысты, і таму мы адкрыем гэтае месца памінання не цяпер, а толькі тады, калі апошні наш воін, які загінуў смерцю храбрых на гэтай зямлі, да якой бы нацыянальнасці, да якой бы рэспублікі былога Савецкага Саюза ён ні належаў, не будзе знойдзены і пахаваны з воінскімі ўшанаваннямі.*

*У нас яшчэ занадта многа безыменных, а то і проста неапазнаных магіл. Нам трэба больш часу для прымірэння, таму што мы пацярпелі больш. За першыя чатыры гады пасля аб'яўлення Беларуссю суверэнітэту многае было зроблена, каб прымусіць нас забыць боль нашых страт, усё і ўсім дараваць".*

*Іван АНТАНОВІЧ,*
*міністр замежных спраў Беларусі.*

*ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

## СТРАТЫ ДЛЯ БЮДЖЭТУ

Нізкія тэмпы прыватызацыі сталі прычынай мільярдных страт для рэспубліканскага бюджэту.

Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі планавала ў бягучым годзе сабраць 500 мільярдаў рублёў. Аднак рэальныя паступленні ў даходную частку бюджэту за шэсць месяцаў не перавысілі 20 працэнтаў ад гэтай сумы. Як паведамілі ў міністэрстве, да пачатку лета прамы прыбытак ад прыватызацыі складаў 14,2 мільярда рублёў, дывідэнды на належачыя дзяржаве акцыі — 48,1 мільярда. Яшчэ каля 3,5 мільярда атрыманы ў ходзе адчужэння дзяржаўнай маёмасці.

*СІТУАЦЫЯ*

## ПРАХАДНЫ ДВОР

Адміністрацыйныя парушэнні, звязаныя з невыкананнем пашпартна-візавага рэжыму і правілаў рэгістрацыі замежных грамадзян у беларускай сталіцы, набліжаюцца да фантастычнай лічбы. За мінулае паўгоддзе іх было выяўлена каля 26 тысяч. Як паведамілі ў ДАУС Мінгарвыканкома, Мінск апошнім часам сапраўды нагадвае прахадны двор паміж Еўропай і Азіяй. На думку спецыялістаў, колькасць нелегальных жыхароў сталіцы і прылеглых рэгіёнаў складае прыкладна 300 тысяч чалавек.

*ПЕРАМОЖЦЫ*

## ФЕСТЫВАЛЬ «МАГУТНЫ БОЖА»

У Магілёве завяршыўся VI Міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа".

Па рашэнню журы на чале з народным артыстам СССР і БССР Віктарам Роўдам, "Гран-пры" фестывалю атрымаў гарадскі акадэмічны хор з горада Бранска. На ўрачыстым закрыцці шостага свята духоўнай музыкі гасцям з памежнай расійскай вобласці была перададзена копія іконы Маці Божай XVII стагоддзя, арыгінал якой і з'яўляецца галоўным прызам, што пераходзіць штогод да новага пераможцы.

Першае месца ў конкурсе сярод вакалістаў заваявала мінчанка Тамара Пятрова, сярод харавых калектываў самымі лепшымі прызнаны тры: з Украіны — народны самадзейны камерны хор народнай музыкі "Уваскрэсенне" і хор хлопчыкаў кафедральнага храма святой Сафіі ў Жытоміры, а таксама дзіцячы хор "Чароўнасць" з горада Барысава.

Па традыцыі на фестывалі "Магутны Божа" быў уручаны прыз "Надзея". Сёлета яго атрымала Алена Каначук з дзіцячага хору "Спакой і дабро" горада Слоніма: дзяўчына спявае, піша музыку і вершы.

*СТЫХІЯ*

## МОКРАЕ ЛЕТА-98

Як паведамілі карэспандэнту "Звязды" ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, усяго, пачынаючы з 14 чэрвеня, у Беларусі ад разгулу стыхіі пацярпелі 78 раёнаў. Зараз у іх працягваецца работы па рамонту жылля, грамадскіх, вытворчых і сельскагаспадарчых пабудоў, уборцы паваленых ветрам дрэў.

Аднак сітуацыя ўскладнілася ў выніку моцных ліўневых дажджоў са шквалістым ветрам, што адбылися 14 ліпеня, — якраз праз месяц пасля першага ўдару стыхіі. "Другое кола" бедстваў закранула паўднёва-ўсходнюю частку тэрыторыі Віцебскай вобласці, дзе ў сямі раёнах, у Оршы і Віцебску надвор'е нарабіла бяды. Моцныя ліўневыя дажджы тут суправаджаліся шквалістым ветрам да 18—21 метра ў секунду. У выніку былі пашкоджаны дахі 49 жылых дамоў, адной школы, 60 вытворчых і сельскагаспадарчых пабудоў, разбураны мост. Ужо 17—18 ліпеня нябёсы "расчыніліся" над Жыткавіцкім і Лельчыцкім раёнамі, дзе адпаведна было падтоплена 378 і 157 падворкаў, 159 і 68 дамоў, 22 тысячы і 10 тысяч сельскагаспадарчых угоддзяў.

Як ўважаюць у міністэрстве, з улікам апошніх разбурэнняў у Віцебскай вобласці, жылыя і грамадскія будынкі ў пацярпелых раёнах краіны адноўлены на 86,5 працэнта (засталося аднавіць 164 з 1 221 будынка). Праўда, працягваюць заставацца падтопленымі пойменныя землі на рацэ Бярэзіна, участку Барысаў — Беразіно, рэках Убарць і Пціч — прытоках Прыпяці. Чакаецца выхад вады на пойму на рацэ Гарынь у г. п. Рэчыца. Глыбіня затаплення поймаў рэк складае 7—55 сантыметраў.

*СЛАВУТАСЦІ ЧАЧЭРСКА*

Багатая гісторыя ў райцэнтра Чачэрск Гомельскай вобласці. Яго наведвалі Аляксандр Пушкін, цары Аляксандр II і Павел I. Пабывалі тут і многія дзекабрысты — у Чачэрску жыла жонка Мураўёва-Апостала Ганна, якая была дачкой графа Захара Чарнышова — генерал-губернатара, намесніка імператрыцы Кацярыны ў Беларусі. Чачэрск быў падораны графу Чарнышову Кацярынай, дзе ён і пабудаваў сабе замак у 1773 годзе. У гэтыя ж гады будавалася і Праабражэнская царква. А ў 1774 годзе ў Чачэрск прыбыла імператрыца Кацярына і ўласнаручна асвяціла пабудаваную двух'ярусную цагляную царкву.

Абодва будынкі — дом графа Чарнышова і Праабражэнская царква, пабудаваныя італьянскімі майстрамі, і па сёння захаваліся ў Чачэрску.



НА ЗДЫМКУ: помнік XVIII стагоддзя Праабражэнская царква ў Чачэрску.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

*СЭЗ БЕЛАРУСІ*

## ІМКНУЦЦА Ў ЗОНЫ

Цяпер у Беларусі створаны тры свабодныя эканамічныя зоны (СЭЗ).

У пачатку ліпеня гэтага года на тэрыторыі СЭЗ "Брэст" зарэгістраваны ў якасці рэзідэнтаў 47 прадпрыемстваў. Гэта пакуль што самая буйная такая зона ў рэспубліцы. У ёй дзейнічае 27 фірм з замежнымі інвестыцыямі, агульны аб'ём якіх — каля 90 мільёнаў долараў ЗША. Найбольш буйныя інвестары тут — Германія і Польшча. Аб гэтым паведамілі ў прэс-службе Міністэрства знешніх эканамічных сувязей.

Другая СЭЗ — "Гомель-Ратон". Яе аб'ём інвестыцый на пачатак ліпеня складае больш чым шэсць мільёнаў долараў. Трэцяя — СЭЗ "Гроднаінвест" яшчэ толькі пачынае развівацца. Дарэчы, з ініцыятывай стварэння яшчэ адной свабоднай эканамічнай зоны выступіў і Віцебскі аблвыканкам.

З 1000 НАРОДЖАНЫХ У МІНСКУ ВЫЖЫВАЕ 990





# ДЗЕЦІ МАЮЦЬ ШАНЦ... ЖЫЦЬ

**Гарадская клінічная бальніца № 7 існуе ўжо 30 гадоў. Яе добра ведаюць у Мінску. Асабліва тыя, у каго былі складаныя роды і нарадзіліся не зусім здаровыя дзеці. Менавіта ў гэтай клініцы ёсць псіханеўралагічныя аддзяленні для нованароджаных, для дзяцей да 3 гадоў і старэйшых. Тут працуе інфекцыйнае аддзяленне нованароджаных. І яны не пустуюць.**

**Сёння ж гаворка пойдзе пра сістэму выходжвання неданошаных дзяцей у 7-й клінічнай бальніцы. Вы думаеце, дзеці рэдка нараджаюцца неданошанымі? На жаль, не. У 1997 годзе ў 7-м радзільным доме нарадзілася 2 804 дзіцяці (на 266 менш, чым у 1996 годзе). Сярод іх кожны чацвёрты неданошаны. Летась супернеданошаных дзяцей нарадзілася 26 чалавек. (Гэта дзеці, што нарадзіліся з вагой менш 1 500 грамаў).**

**Сёлета ў першым квартале з вагой да 999 грамаў у Мінску нарадзілася 11 дзяцей, з вагой ад 1 500 да 1 999 грамаў — 27. Такія немаўляты патрабуюць да сябе асаблівай увагі. Яны не проста малыя па вазе, яны нездаровыя. Іх органы слаба жыццяздольныя. Але маці любяць іх і вельмі хочуць, каб тыя жылі.**

**Смяротнасць неданошаных дзяцей у 7-й клінічнай бальніцы зніжаецца. І ўсё больш дзяцей атрымліваюць шанц выжыць. Як гэта адбываецца на практыцы, вы можаце даведацца з размовы з загадчыцай другога аддзялення па выходжванню неданошаных дзяцей доктарам Наталляй ШАБАНАВАЙ.**

*— Наталля Юр'еўна, у рамках праграмы "Трансформ" нямецкія спецыялісты правялі даследаванне. Вынікі такія: у Германіі з 1000 нованароджаных выжывае 995, а ў Мінску — 990 дзяцей. Думаецца, што, улічваючы розны ўзровень жыцця, для Беларусі лічба вельмі высокая. Што думаеце вы на гэты конт?*

— Я згодна, гэта лічба вельмі неблагая. І нацяжкі тут няма. Так у нас у Мінску ўзровень дзіцячай смяротнасці (вельмі важны дэмаграфічны паказчык) за 1997 год склаў 12,6 памерлых дзяцей на 1000 народжаных. Гэта між іншым лепшы паказчык па СНД. Канешне, у правінцыі лічбы горшыя. Але ж паказчыкі па Мінску сапраўды выклікаюць павагу.

*— Дзякуючы чаму гэта дасягаецца? Уплываюць узровень тэхналогій, узровень падрыхтоўкі ўрачоў?*

— Зразумела, усё гэта ўплывае. І мы дапамагалі б яшчэ большай колькасці дзяцей, калі б не наша вельмі недастатковае фінансаванне. Перыядычна мы маем сур'ёзныя складанасці і з медыкаментамі і расходным разавым матэрыялам. Сёння мы карыстаемся аднаразовымі зондамі для кармлення, катэтарамі для адсмоктвання слізі, шпрыцамі. Канешне, у нас ёсць прыярытэт арганізацыі, што працуе ў галіне аховы мацярынства і дзяцінства. Але ж гэта хутчэй прыярытэт дэкларатыўны. Абсталяванне, якое мы маем у аддзяленні рэанімацыі, — добрае, але яно старэе. Яго неабходна абнаўляць, мяняць. На гэта грошай няма.

У нашым жа аддзяленні, у якім мы выходжваем малаважкіх дзяцей пасля рэанімацыі, з апаратурай зусім дрэнна. Новых кувезаў, якія нам неабходныя, апаратаў догляду хворых (манітораў) у нас амаль няма. Мы жывем старымі запасамі. Нашай апаратуры больш за 10 гадоў. Але пры добрым доглядзе яна працуе доўга. Ды не хапае запчастак.

Я думаю, што галоўнае ў добрай працы — гэта арганізацыя службы і адукаванасць урачоў, сясцёр. Асаблівая адказнасць ляжыць на апошніх. Доктар ставіць дыягназ, робіць назначэнні. Але ж даглядае дзіця медыцынская сястра. Ёй трэба першай заўважыць, калі з дзіцем што-небудзь не так. Яна яго корміць, робіць працэдуры, перапавівае, нарэшце. А ў нас медсясцёр не хапае.

*— Колькі ў вашым аддзяленні сёння дзетак і колькі медсясцёр?*

— У нас зараз 48 дзяцей на двух пастах. На кожным з іх адна сястра. Мы не можам расшырыць аддзяленне на 3—4 пасты, бо ўкамплектаванасць аддзялення медсёстрамі — 50 працэнтаў. Аптымальны варыянт — [illegible] 6—7 дзетак на адну сястру. Тады [illegible] маглі больш патрабаваць ад сястры. Яна б не так стамлялася, магла б больш увагі ўдзяляць кожнаму дзіцяці. З 30 каляндарных дзён месяца сястра мае 17—20 дзяжурстваў, бо вымушана працаваць на 1,5 стаўкі. Гэта цяжка і маральна, і фізічна. Нашы ж пацыенты патрабуюць увагі пастаянна. Ёсць дзеці, якія знаходзяцца ў кувезах. За імі трэба сачыць. Трэба дагледзець тых, хто ляжыць пад крапельніцай. Трэба выканаць рэжым кармлення — некаторых немаўлятак праз зонд мы кормім маленькімі дозамі — праз 1,5—2 гадзіны.

*— Скажыце, калі ласка, сясцёр не хапае, таму што мала хто згаджаецца на такую працу?*

— У Мінску медыцынскіх сясцёр не хапае наогул. Але ж, напрыклад, у Пінску (дзе, як і ў Мінску, 2 медвучылішчы) сярод медсясцёр беспрацоўе. А паколькі Мінск не прымае іншагародніх, мы не можам прымаць спецыялістаў з іншых месцаў.

*— Як трапляюць да вас дзеці?*

— Наш радзільны дом спецыялізуецца на праводзенні заўчасных родаў. Большасць з іх па гораду праходзяць менавіта ў нас. Таксама аддзяленне рэанімацыі абслугоўвае ўсе радзільныя дамы Мінска. Існуе выязная брыгада, якая на спецыяльнай рэанімацыйнай машыне дастаўляе дзетак з малой вагой, што нарадзіліся заўчасна, з усяго горада да нас.

*— З якой масай пры нараджэнні выжываюць дзеці?*

— Па стандартах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя жыццяздольным лічыцца дзіця, народжанае пасля 22 тыдняў цяжарнасці з вагой 500 грамаў. У нас ёсць прыклады, калі выжываюць немаўляты, што мелі вагу 700 грамаў пры нараджэнні. Канешне, далёка не ўсе такія дзеткі выжываюць. Але ж некаторым гэта ўдаецца. Летась Міністэрства аховы здароўя закупіла новы вельмі каштоўны прэпарат, які папаўняе недахоп рэчыва ў лёгкіх дзіцяці, якое неабходна для дыхання. Раней у выпадках, калі дзіця не магло дыхаць само, — да яго падключалі апарат штучнага дыхання. Але ж, калі ён дыхаў за малечу вельмі доўга, — з'яўлялася рызыка атрымаць хранічнае захворванне лёгкіх і бронхаў — лёгачную дысплазію. Дзякуючы набытаму прэпарату, рызыка такой хваробы зменшылася і зменшылася дзіцячая смяротнасць.

*— Колькі ж каштуе курс лячэння гэтым прэпаратам?*

— Курс лячэння аднаго дзіцяці каштуе прыкладна 1,5 тысячы нямецкіх марак. Наогул па ўсім свеце лячэнне нованароджаных у аддзяленні інтэнсіўнай тэрапіі адно з самых дарагіх.

*— Сёння нараджаецца больш неданошаных дзяцей чым раней?*

— Па загружанасці наш[illegible]аддзялення магу сказаць, што дакла[illegible] менш іх не стала. Нашы аддзяленні не пустуюць.

*— Вы можаце назваць прычыны нараджэння малаважкіх дзяцей?*

— Галоўная з іх — [illegible]згаршэнне здароўя жанчын. У больш[illegible] цяжарных жанчын ёсць хранічныя ці вострыя хваробы. Не апошнюю негатыўную ролю адыгрывае экалогія, шкодныя звычкі бацькоў, напружаныя адносіны ў сем'ях, амаль штодзённыя стрэсы.

*— Колькі дзён звычайна знаходзіцца ў вас дзіця?*

— Па-рознаму. У нас ёсць хлопчык Ягор, які жыве ў нас з сакавіка. Ён здаровы і вясёлы. Але яго кінула маці. Наогул, з 48 дзяцей, што знаходзяцца ў нашым аддзяленні, 12 дзяцей, ад якіх адмовіліся бацькі. Сярод іх — дзеці з паталогіямі і здаровыя дзеці. Двое з 12 "знайшлі" сабе новых бацькоў. Вельмі хочацца, каб дзеці былі дагледжаныя і шчаслівыя ў новых сем'ях.

Па плану ж, дзеці знаходзяцца ў нас у сярэднім 28 дзён. Зразумела, што малое, якое нарадзілася з вагой 700 грамаў, будзе знаходзіцца ў нас некалькі месяцаў. Ёсць шмат арыенціраў, па якіх мы выпісваем маму з дзіцем дадому. Мы дамагаемся рытмічнага дыхання. Нам трэба скончыць лячэнне інфекцый, якія ёсць у дзіцяці. Кожнае дзіця павінна ехаць дадому з павелічэннем вагі.

Мы не выпісваем дзіця, якое есць праз зонд, канешне. Дарэчы, у Германіі, напрыклад, такая практыка ёсць. Там нават з маніторам дзеці едуць дахаты.

*— Гэта дзякуючы добраму развіццю патранажу?*

— І яму таксама. Там наогул іншая культура. Там выпісваюць дадому дзіця з вагой 1 800 грамаў. І дома яго дагледзяць. Яно жыве і развіваецца. Бацькі працуюць над гэтай праблемай разам. Ніколі ў добрых сем'ях бацька не кіне маці з гэтай бядой адзін на адзін. Сям'я там, як правіла, калі толькі хоча завесці дзіця, ужо ходзіць да доктара, кансультуецца. Яны плануюць, каб жанчына зацяжарыла пасля адпачынку. Там бацька часцей, чым у нас, прысутнічае пры родах. Дзеці з радзільнага дома выпісваюць на трэція суткі. На Захадзе ўсё ж такі вышэйшая санітарна-гігіенічная культура.

Мы часам трымаем дзяцей некалькі месяцаў і ўсё роўна баімся аддаваць дахаты. Ёсць няўпэўненыя ў сабе мамы. Ёсць мамы, у якіх, акрамя нашага пацыента, яшчэ ёсць дзеці. І яна адна проста не зможа фізічна дагледзець дзіця як трэба. Я разумею, што рана ці позна яно ўсё роўна трапіць дадому. І заўсёды баюся, бо ведаю, што гарадскія паліклінікі неўкамплектаваныя педыятрамі, медсёстрамі. Ці будзе дзіця мець кваліфікаваную дапамогу?

*— Што адбываецца з медыцынай сёння? Урачоў, сясцёр не хапае. Здаецца ж конкурс у медыцынскія навучальныя ўстановы расце?*

— Расце. І людзі імкнуцца паступіць. Я думаю, што прэстыж урачэбнай прафесіі не згублены. Нешта ненармальнае ў арганізацыі аховы здароўя. У народзе ж аўтарытэт прафесіі доктара даволі высокі. Хацелася б, каб і дзяржава цаніла нас высока. Я ведаю, якія складанасці маюць людзі, якія хочуць атрымаць больш-менш паўнацэннае лячэнне. А прафесія — я ніколі не шкадавала, што стала ўрачом.



На 1-м з'ездзе ўрачоў гаварылася шмат пра адказнасць кожнага за сваё здароўе. І гэта правільна. Медыкаў немагчыма абвінавачваць у дрэнным здароўі насельніцтва. Не яны ствараюць шкодную экалагічную атмасферу, і яны не могуць прымусіць кожнага весці здаровы лад жыцця. І што б ні казаў урач пацыенту пра тое, як трэба захоўваць сваё здароўе, ён нічога не зможа проціпаставіць шклянкам водкі, якая прадаецца па 100 грамаў паўзуль па горадзе.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: у аддзяленні інтэнсіўнай тэрапіі — Алена ІРЫНАРХАВА, Ірына БАБЕНЯ; медыцынская сястра Марыя КАРЖАНЕЎСКАЯ; загадчык другога аддзялення па выходжванню неданошаных дзяцей Наталля ШАБАНАВА са сваімі пацыентамі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

НАМ ПІШУЦЬ

# ЛЁСАМ ПАДАРАВАНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Нядаўна прачытала кнігу Лідзіі Савік "Космас Беларуса" пра Барыса Кіта і столькі знайшла знаёмых прозвішчаў. Па-першае, у



Вільні жыве шмат вучняў Б. Кіта, а Пятро Новік з адной вёскі, адкуль і Барыс Кіт, з Агароднікаў, бацька Б. Кіта Уладзімір хрысціў Пятра Новіка і не толькі яго — недалёка ад мяне жыве Ганна Бялевіч (дзявочае прозвішча Друцько), яе таксама хрысціў Уладзімір Кіт. І Пятро Новік і Ганна Бялевіч шмат распавядалі пра мясціны, дзе прайшло дзяцінства вядомага вучонага, пра ягоных бацькоў. Яшчэ ў кнізе "Космас Беларуса" ёсць такі эпізод пра настаўніка Навагрудскай гімназіі Міхася Чатырку. "Міхась Чатырка з сям'ёй жыў у Любчы, прыгожым мястэчку над Нёманам, меў добры, прасторны дом... Па суседству з Чатыркамі стаяў дом Крупічаў, багатых гаспадароў, у дачку якіх Б. Кіт быў закаханы..."

Я даўно сябрую з сям'ёй М. Рулінскага. Жонка Мікалая Рулін-



ская, Кіра Прохараўна, адна з дачок Крупічаў. А было іх у Прохара Крупіча чатыры: Анфіса, Марыя, Ларыса, Кіра і сын Міша. Іх бацька, Прохар, быў вельмі добры гаспадар, некалькі разоў ездзіў у Амерыку на заробкі, вярнуўся, пабудаваў вялікі на два канцы дом, трымалі гаспадарку, пасля 1939 года ўсё было канфіскавана, а сям'ю вывезлі ў Краснаярскі край. Марыя і Ларыса скончылі Віленскую беларускую гімназію, а Кіра спачатку вучылася ў польскай школе, потым у беларускай. Марыя Крупіч разам вучылася і сябравала з Нінай Карсачанкай (першай жонкай Б. Кіта). У сямейным альбоме Рулінскіх ёсць шмат фотаздымкаў, дзе Марыя і Ніна разам, вучнёўскіх. Марыя Крупіч пасля вяртання з Сібіры працавала бухгалтарам у Любчы, завочна закончыла медыцынскі інстытут і да пенсіі працавала фармацэўтам у Любчы. Анфіса настаўнічала на Навагрудчыне (дарэчы, фотаздымак спектакля Я. Купалы "Паўлінка", змешчаны ў кнізе А. Аніщчыка "Навагрудская гімназія" з архіва Анфісы, яна брала ўдзел у спектаклі, будучы вучаніцай гімназіі. Зараз ён знаходзіцца ў яе сына, які жыве ў Любчы).



Ларыса Крупіч закончыла афіцэрскую школу ў Разані, служыла ў польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі, дайшла да Берліна, зараз жыве ў Польшчы, вельмі заслужаны чалавек. Кіра пасля вяртання з Сібіры жыве ў Літве, да пенсіі працавала бухгалтарам на папяровай фабрыцы. Незвычайна цікавая жанчына, фенаменальная памяць, гадзінамі распавядае пра дзяцінства ў Любчы, пра архітэктуру гарадка, пра нашу гісторыю, цікавых людзей, з якімі яе звёў лёс. Яе настаўнікам у Любчы быў Б. Рагуля. На сценах кватэры — прыгожыя карціны, вышытыя рукамі Кіры, розныя сурвэткі, дываны. Сапраўды, свет цесны. Я так удзячна лёсу за сустрэчы з цікавымі людзьмі, у якіх можна бясконца вучыцца, з якіх можна браць прыклад.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.

**НА ЗДЫМКАХ: Марыя КРУПІЧ; дзяўчаты Ніна КАРСАЧАНКА (злева) і Марыя КРУПІЧ; Ларыса КРУПІЧ.**

# ШТО МОГУЦЬ НАШЫ СЕЛЕКЦЫЯНЕРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

даркі, а таксама вучэбна-доследныя гаспадаркі ВНУ, якія размнажаюць гэтыя сарты, элітнае ж насенне перадаецца насенняводчым гаспадаркам.

Практычна ўсе створаныя ў Беларусі сарты, а таксама сарты замежнай селекцыі, перад тым, як іх размнажаюць і пускаюць на палі, праходзяць дзяржаўнае сартавое конкурснае выпрабаванне ва ўсіх абласцях рэспублікі. Арганізацыяй сортавыпрабавання займаецца Камітэт па дзяржаўнаму выпрабаванню і ахове сартоў пры Міністэрстве сельскагаспадарчай прадукцыі. Сарты-пераможцы заносяцца ў дзяржаўны рэестр сартоў і драўнінна-кустовых парод і запускаюцца ў вытворчасць у першую чаргу.

Амаль ва ўсіх раёнах рэспублікі створаны дзяржаўныя насенныя інспекцыі, якія ажыццяўляюць кантроль за тэхналогіяй вырошчвання насення, іх адпаведнасцю пасяўным стандартам, а таксама абароне ад рознай фальсіфікацыі. Так, для атрымання добрага ўраджаю кукурузы прыдатныя толькі гібрыды першага пакалення, якія дазваляюць атрымаць не толькі зерне, але і зялёную масу. Гібрыды другога пакалення зерне дадуць, але яно будзе менш каштоўным і больш танным. Неаднаразова спыняліся спробы продажу замежнымі партнёрамі гаспадаркам краіны гібрыдаў другога пакалення пад выглядам высокасортнага зерня.

Цяпер фарміруецца Дзяржаўны рэестр вытворцаў і нарыхтоўшчыкаў насення, у які заносяцца юрыдычныя і фізічныя асобы, што маюць неабходную матэрыяльна-тэхнічную базу, вопыт работы ў насенняводстве, кваліфікаваныя кадры і іншыя ўмовы, што дазваляюць выканаць усе аперацыі па тэхналогіі вытворчасці і рэалізацыі насення. У бліжэйшы час ім будуць выдадзены ліцэнзіі на права вытворчасці, нарыхтовак і рэалізацыю насення. Юрыдычныя і фізічныя асобы, не ўнесеныя ў даны рэестр, могуць вырошчваць насенне толькі для ўласных патрэб без права іх рэалізацыі.

Каардынацыю і дзяржаўнае рэгуляванне ў насенняводстве ажыццяўляе аддзел насенняводства Міністэрства сельскай гаспадаркі, якое ўзначальвае Мікалай Лазар. Па яго словах, пасля распаду Савецкага Саюза насенняводства, як і іншыя галіны народнай гаспадаркі, перажыло цяжкія часы. У Беларусь пайшоў паток насення нераяніраванага, нізкай якасці, невядомага паходжання, з паніжанай усходжасцю, а то і зусім няўсходжага, часта з фальсіфікаванымі дакументамі. На нізкапробнае насенне давалася добрая рэклама, якая нярэдка павялічвала аб'ёмы продажу зерня, але зусім не ўраджай.

Паступова Беларусь станавілася месцам, куды іншыя краіны пачалі скідваць насенне, што падлягала утылізацыі, якая ва ўсім свеце з'яўляецца вельмі дарагой справай. З Еўропы і нават з ЗША ў краіну пайшоў сапраўдны канвеер нягоднага, пратраўленага, неўсходжага насення. Так, італьянскі дабрачынны фонд пераслаў у Беларусь 75 тон насення пры ўмове, што наша краіна аплаціць кошт дарогі, што складала 8 тысяч долараў ЗША за 4 машыны. Перад тым, як прыняць падарунак, міністэрства запрасіла сертыфікат. У ім было ўказана, што ўсходжасць насення складае ад 40 да 60 працэнтаў. Пасля таго, як Беларусь ад насення адмовілася, італьянцы прапанавалі тое ж насенне бясплатна, аднак "падарунак" прыняты не быў. Аналагічная сітуацыя адбылася з 12 тонамі амерыканскага насення цукровых буракоў, якія ў парадку гуманітарнай дапамогі былі выдзелены для Беларускай праваслаўнай царквы. Царква прадбачліва звярнулася ў Міністэрства сельскай гаспадаркі, праведзеныя даследаванні паказалі, па-першае, нізкую ўсходжасць амерыканскага насення, а, па-другое, іх заражанасць небяспечным сельскагаспадарчым шкоднікам, незафіксаваным на тэрыторыі нашай краіны.

Ва ўсіх развітых краінах насенняводства абаронена заканадаўча і вядзецца па ўстаноўленых правілах і нарматывах. Для таго, каб прывесці насенняводчы працэс у парадак і накіраваць яго ў прававое рэчышча, былі распрацаваны і прыняты Законы Рэспублікі Беларусь "Аб патэнтах на сарты раслін" і "Аб насенні". Першы з іх забяспечвае права ўладальніка сорта (селекцыянера, калектыву селекцыянераў) на аўтарства, якое ахоўваецца дзяржавай. Калі сорт створаны на асабістыя сродкі, яго аўтар з'яўляецца патэнтаўладальнікам, а калі ён працаваў па найму (навукова-даследчая ўстанова, вышэйшая навучальная ўстанова, акцыянернае таварыства і інш.) і на стварэнне сорта выкарыстоўваў сродкі работадаўцы, то патэнт на сорт выдаецца работадаўцу. Таму насенне данага сорта выкарыстоўваецца толькі па дазволу патэнтаўладальніка. Патэнтаўладальнік абавязаны зарэгістраваць свой сорт у рэестры ахоўваемых сартоў, пасля чаго даны сорт будзе знаходзіцца пад прававой абаронай на працягу 25 гадоў.

Закон Рэспублікі Беларусь "Аб насенні" накіраваны на забеспячэнне дзяржаўнага кантролю за вытворчасцю, нарыхтоўкай, рэалізацыяй і выкарыстаннем насення, для чаго ўведзены Дзяржаўны рэестр сартоў і драўнінна-кустовых парод (адзіны банк даных), у які будуць заносіцца лепшыя па прадукцыйнасці і гаспадарчай каштоўнасці сарты і пароды сельскагаспадарчых, пладова-ягадных, дэкаратыўных, кветкавых, лясных і лекавых культур. Даны рэестр ужо сфарміраваны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і да выкарыстання ў вытворчасці дазваляюцца толькі занесеныя ў яго сарты і пароды.

Рэспубліка Беларусь уваходзіць у Міждзяржаўны каардынацыйны савет па пытаннях насенняводства СНД, а таксама пастаўляе на рынак СНД і іншых дзяржаў сартавое насенне зерневых, бабовых, грачыхі, бульбы, ільну і іншых культур. Беларускае насенне купляюць Калінінградская, Смаленская, Бранская, Калінінская, Цвярская і іншыя вобласці Расіі, а таксама Літва, Латвія і Малдова. Акрамя таго, сарты беларускай селекцыі праходзяць дзяржаўныя выпрабаванні ў Германіі, Англіі, Польшчы, Швецыі і іншых краінах. Так, бульба сорту "Вярба" ў час дзяржаўных выпрабаванняў у Швецыі па ўраджайнасці і выхаду крухмалу заняла першае месца, а ў Германіі добра прыжыўся шэраг сартоў вузкалісцевага лубіну. Сумесна з замежнымі фірмамі вядзецца работа па стварэнню новых сартоў. З нямецкай фірмай "KBG" створаны і ўжо раяніраваны сарты цукровых буракоў (напрыклад, сорт "Кавебел"), з дацкай фірмай "Даніска Сід" — сарты "Белдан" і "Данібел", сумесна з малдаўскай фірмай "Парумбень" створаны новыя сарты кукурузы — гібрыды "Бемо 181СВ", "Бемо 160МВ", "Бемо 210СВ".

Для насенняводства гародніных, кветкавых, лекавых культур і забеспячэння насеннем патрэб насельніцтва ў Беларусі створана і дзейнічае навукова-вытворчае аб'яднанне "Элітнасеннявод", у якое ўваходзяць БелНДІ агародніцтва, 17 насеннегаспадарак, 5 дзяржаўных абласных і адно арэнднае прадпрыемства "Сортанасеннегародніна". Праз сетку магазінаў гэтага аб'яднання прадаецца насельніцтву да 80 працэнтаў насення. Аднак з-за слабай матэрыяльна-тэхнічнай базы, недахопу сховішчаў, тэхнікі, абсталявання, ліній дапрацоўкі, падрыхтоўкі і расфасоўкі насення, а таксама састарэлых тэхналогій вырошчвання, ва ўмовах Беларусі насенняводства агародніных, кветкавых і іншых культур развіта недастаткова, і таму насенне многіх культур даводзіцца завозіць з-за мяжы. Паколькі ў апошнія гады павялічыўся попыт насельніцтва на насенне, Міністэрства сельскай гаспадаркі стала выдаваць дазвол на іх увоз акцыянерным таварыствам і прыватным прадпрыемальнікам. Гэта дало магчымасць задаволіць патрэбы ў насенні як па аб'ёмах, так і па асартыменце на пасеў 1998 года для многіх падсобных гаспадарак, дачных кааператываў і насельніцтва.

Вытворчасцю элітнага насення на сёння займаюцца не толькі эксперыментальныя базы і элітныя гаспадаркі, але таксама фермерскія гаспадаркі і іншыя аб'яднанні. Займацца насенняводствам і рэалізацыяй насення можа любы жадаючы пры ўмове, што ён унесены ў дзяржаўны рэестр вытворцаў, нарыхтоўшчыкаў насення, а таксама будзе захоўваць тэхналогію яго вырошчвання. Абавязковай умовай для атрымання дазволу займацца насенняводствам з'яўляецца наяўнасць зямлі, якаснага насення, тэхнічных сродкаў, а таксама ўгнаенняў і сродкаў аховы насення.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 5

Адкрываецца часопіс артыкулам Валерыя Болбаса, дацэнта Магілёўскага педагагічнага інстытута "На скрыжаванні еўрапейскіх павеваў: маральны ідэал у педагагічнай думцы Беларусі эпохі адраджэння". Звяртаючыся да творчай спадчыны такіх выдатных пастаў і асветнікаў як Мікола Гусоўскі, Ян Ліцыній Намыслоўскі, Сімяон Полацкі, Францішак Скарына, Сымон Будны аўтар зазначае: "Пры сцвярджэнні годнасці і самакаштоўнасці кожнага чалавека беларускія мысліцелі XVI стагоддзя ў процівагу хрысціянскаму касмапалітызму сярэднявякоўя не маглі не ўсведамляць неабходнасць усталявання ў людзей пачуццяў гонару, любові да Радзімы, яе народа. Педагогі-асветнікі лічылі, што натуральная сувязь людзей з "мілай старонкай", "родным куточкам" не толькі не перашкаджае, а наадварот, павінна ўмацоўваць унутраную маральна-духоўную пазіцыю выхаванцаў. Гэтым значна паглыбляліся і дапаўняліся мэты маральнага выхавання,істотна ўзбагачаўся маральны ідэал у тагачаснай педагагічнай думцы Беларусі". Само паняцце маральнага ідэала брала пачатак у народна-выхаваўчых поглядах, ідэях і назапашаным вопыце, грунтавалася на антычным уяўленні аб гарманічным развіцці асобы, было прасякнута ідэямі хрысціянскай этыкі.

"Літаратурны рух беларускай эміграцыі" — першая частка артыкула Лявона Юрэвіча, даследчыка гісторыі беларускай, найперш эмігранцкай, літаратуры. Аўтар у сваёй працы зыходзіць з таго, што сёння з'явілася патрэба асэнсаваць літаратуру, створаную за межамі Бацькаўшчыны як арганічную частку беларускай літаратуры, а не яе адгалінаванне, не як асобную плынь, і ўбачыць літаратуру замежжа не як дзейнасць асобных пісьменнікаў на эміграцыі, а як літаратурны рух. Аналізу падлягае літаратурны рух паваеннай хвалі беларускай эміграцыі. Найбольш колькасная яна стварыла свае духоўныя каштоўнасці, у тым ліку і літаратуру, знаходзячыся ў лагерах ДП і асноўных краінах расселення — у Германіі, ЗША, Англіі, Канадзе, Францыі, Аўстраліі.

Канстанцін Усовіч кіруе музеем-лабараторыяй Францішка Скарыны Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, які носіць імя слыннага беларускага асветніка. Расказваючы аб дзейнасці музея-лабараторыі ("Каб стаць сусветным цэнтрам скарыназнаўства"), аўтар распавядае пра свае цяжкасці і праблемы, меркаванні, што трэба зрабіць, каб падняць значнасць і мець большую карысць ад гэтай установы.

Цікавасць уяўляе "Невядомы ліст пра рассяленне беларусаў", з якім чытачоў знаёміць Аляксей Каўка. Гэта ліст "кагосьці з двух Бяльніцкіх-Біруляў", — мастака ці якуцкага камісара — пра этнаграфічную характарыстыку "беларускага племя". Копія ліста знята аўтарам многа гадоў назад у Ленінградскім архіве АН, сярод папер акадэміка Яўхіма Карскага.

У раздзеле "Беларускае замежжа" пад рубрыкай "Старонкі будучага даведніка" расказваецца пра нашых землякоў Аляксандра Гзоўскага, рускага і польскага пісьменніка і журналіста, жывапісца Пётру Міірановіча.

# УЗОР ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

еўскае марское вучылішча. Бацька, развітваючыся з сынам, гаварыў: "Служы Айчыне верна і аддана, змоладу даражы сваім чэсным імем. Чэснае імя — адзіны здабытак, які я пакідаю табе ў спадчыну, і за тое мяне не судзі...".

Бацька гаварыў праўду. Ён сапраўды нічога не меў, акрамя добрага імя, і, паміраючы, пакінуў у спадчыну сыну адзіную каштоўнасць — паляўнічую стрэльбу. Праз многа гадоў, запаўняючы чарговы "Фармулярны спіс аб службе і годнасці", флігель-ад'ютант імператарскай світы капітан І рангу Аляксандр Іванавіч Казарскі ў графе, ці мае за сабою, за бацькамі ці, калі жанаты, за жонкаю маёнтак, напіша: "Не маю".

Нікалаеўскае вучылішча рыхтавала для Чарнаморскага флоту афіцэраў з дваран і штурманаў з "больш з нізкіх класаў". У пачатку XIX стагоддзя, калі там вучыўся Казарскі, гэтае вучылішча было адной з лепшых ваенных навучальных устаноў Расіі. Выкладчыкі вучылі будучых маракоў матэматычным і навігацыйным навукам, гісторыі, геаграфіі, італьянскай, грэчаскай і турэцкай мовам.

Хутка прайшлі гады ў вучылішчы, вучэбныя паходы на брыганціне "Міхаіл". Хоць і галадаў юны марак, але вучобу не кінуў. Нарэшце 14 лютага 1814 года прыйшло ўзвядзенне ў мічманы. Было Аляксандру тады ўсяго 14 гадоў! Па дакументах, праўда, значылася 16, але два гады ён сабе проста прыпісаў, каб хутчэй стаць мічманам.

Казарскі спачатку плаваў на брыганцінах, потым 3 гады камандаваў на Дунаі атрадам грабных суднаў. На Дунай папрасіўся добраахвотна, мяркуючы, што на пагранічнай рацэ становішча бліжэй да баявога, чым на Чорным моры. Аднак служба тут была самай звычайнай, мірнай. А Казарскі рваўся ў бой. І калі нарэшце праз тры гады яго вярнулі на Чарнаморскі флот, ён напісаў маці (бацька да таго часу ўжо памёр): "Служба на Дунаі занадта бяспечная, каб праславіць Айчыну".

Пасля пыльнага і душнага Ізмаіла — зноў Севастопаль з яго блакітнайззяючай бухтай і белакрылымі караблямі. Казарскі служыў на фрэгаце "Яўстафій", шхуне "Севастопаль", лінкоры "Імператар Франц". Матросы любілі свайго камандзіра, што здаралася нячаста ў тыя часы, калі матросаў з прыгонных і афіцэраў-дваран падзяляла не толькі глыбокая службовая, але і непераадольная саслоўная бездань.

...Надышоў 1828 год. Зноў руска-турэцкая вайна, адна з многіх войнаў Расіі супраць Турцыі. У пачатку вайны лейтэнант Казарскі камандаваў транспартам "Сапернік", але і на ім дабіўся баявых удач. За храбрасць пры ўзяцці Анапы яго ўзвялі ў капітан-лейтэнанты, а за мужнасць пры асадзе балгарскай Варны ўзнагародзілі залатой шабляй.

У канцы 1828 года камандуючы Чарнаморскім флотам адмірал А. Грэйг назначыў Казарскага камандзірам брыга "Меркурый", што значыўся ў крэйсерскім атрадзе эскадры для дазораў і разведкі. Плаванне пад самым носам турэцкага флоту ля Басфора было не жартоўнай справай. "Меркурыю" даводзілася на ўсіх парусах уцякаць ад праціўніка, які кідаў у пагоню за смельчаком самыя буйныя і хуткасныя караблі. Казарскі падыходзіў пад абстрэл берагавых батарэй, спакойна адзначаў размяшчэнне турэцкіх гармат. Бясстрашша, з якім ён манеўраваў пад жорсткім агнём праціўніка, яшчэ больш умацоўвала яго аўтарытэт сярод матросаў і афіцэраў.

14 мая 1829 года над морам вісеў густы туман, ішоў дождж. Раптоўна на невялікай прасторы туман рассеяўся і Казарскі заўважыў турэцкія караблі. Пад усімі парусамі яны ішлі па праліву, накіроўваючыся ў Чорнае мора. Трэба было адыходзіць, але Казарскі працягваў збліжацца з праціўнікам. Гэта не было бравадай. Спатрэбіўся некаторы час, пакуль караблі зблізіліся настолькі, што стала магчымым больш дакладна вызначыць варожыя сілы. Калі "змрочнасць" зусім рассеялася, Казарскі пералічыў турэцкія караблі, адкуль таксама пільна назіралі за "Меркурыем". "Шэсць лінкораў, два фрэгаты, два карветы, брыг і яшчэ... усяго чатырнаццаць. Флот, панове!" — падсумаваў Казарскі, апускаючы падзорную трубу і звяртаючыся да сваіх афіцэраў.

Казарскі не падаваў віду і ўсё ж быў устрывожаны. Ён ведаў, што многія караблі турак, выбудаваныя французамі, — выдатныя хадакі і ўцячы ад іх не так проста. На турэцім флагмане паднялі сігнал "легчы ў дрэйф" і толькі два лінкоры пад адміральскімі флагамі, паставіўшы дадатковыя парусы, прыбавілі ход. Астатнія караблі засталіся чакаць, калі іх адміралы альбо прывядуць "Меркурыя" ў палон, альбо вернуцца з перамогай, патапіўшы рускі брыг. Ніхто на



турэцкіх караблях не сумн ся ў лёгкай перамозе, настоль.. вялікай была перавага ў сілах.

Турэцкія караблі паступова набліжаліся. На 110-гарматным лінкоры "Селіміе" развяваўся флаг капудан-пашы, камандуючага турэцкім флотам; 74-гарматны "Рэал-бей" ішоў пад флагам малодшага флагмана.

Казарскі ўжо выразна разумеў: будзе бой... 184 гарматы супраць 18, але з улікам розніцы ў калібры на адну каранаду брыга прыпадала не менш трыццаці турэцкіх гармат. Ды і колькасная перавага ў людзях — на аднаго матроса "Меркурыя" не менш дваццаці турак. З кожнага турэцкага карабля можна дзесяць "Меркурыяў" зрубіць. Такога яшчэ ніколі не бывала ў марскіх баталіях... Як тут дабіцца перамогі?.. Трэба манеўраваць, увесь час манеўраваць. Трапны агонь па самых слабых месцах варожых караблёў і хуткі манеўр павінен вырашыць справу.

...Матросы "Меркурыя" па чарзе спускаліся ўніз, апранаючы па звычаю чыстыя кашулі. Афіцэры апраналіся ў парадныя мундзіры. Неўзабаве і на камандзіры брыга заззялі залачоныя эпалеты.

Між тым адлегласць паміж караблямі настолькі скарацілася, што ядры, якія клаліся раней за кармой, цяпер са свістам пераляталі цераз брыг. Абмеркаваўшы становішча з афіцэрамі, Казарскі загадаў падаць вахценны журнал і зрабіў запіс: "На офицерском Совете мы единодушно положили драться до последней крайности, и есть ли будет сбит рангоут, или в трюме вода прибудет до невозможности откачиваться, то свалившись (зблізіўшыся ўшчыльную — **В. Я.**) с каким-нибудь кораблем, тот, кто будет еще в живых из офицеров, выстрелом из пистолета должен зажечь крюйт-камеру" (асабліва ахоўваемае ў парусным флоце памяшканне для боепрыпасаў — **В. Я.**).

А пятай гадзіне туркі падышлі пад самую карму рускага брыга. "Селіміе" пакаціўся ў адзін бок, "Рэал-бей" — у другі, нібыта беручы брыг у абцугі. Казарскі даўно ўжо разгадаў намер турак, але ён нічога не мог зрабіць — парусы "Меркурыя" абвіслі — вецер пайшоў наверх, напаўняючы парусы варожых лінкораў. Туркі паставілі рускі брыг "у два агні" — "Селіміе" біў па "Меркурыю" правым бортам з 55 гармат, а "Рэал-бей" 37 гарматамі левага борта. Яны ва ўпор стралялі ўсім, чым толькі можна было зараджаць гарматы: ядрамі, двайнымі снарадамі, злучанымі ланцугамі для паражэння парусоў і снасцей (кніпелямі), карцеччу, запальнымі снарадамі. Нізавы вецер раптам памацнеў. Імгненна ацаніўшы абстаноўку, Казарскі скамандаваў: "Поўны наперад!". "Меркурый" выслізнуў з вогненных ціскоў.

Туркі, не адразу гэта заўважыўшы ў дыме, працягвалі весці агонь. "Селіміе" ва ўпор расстрэльваў "Рэал-бея", а адтуль старанна палілі па свайму флагману. Крыкі і праклёны на турэцкіх караблях суправаджаліся вясёлым смехам на палубе "Меркурыя".

І зноў турэцкія караблі дагналі рускіх. Туркі ўсё яшчэ спадзяваліся, што, не вытрымаўшы агню, "Меркурый" здасца, спусціць флаг. Карабель капудан-пашы падышоў зусім блізка. Казарскі даў каманду кананірам біць па ватэр-штагам "Селіміе" — трывалым канатам, што ўтрымліваюць знізу парусную аснастку. І калі іх перабіць, усе снасці тут жа ўзляцяць наверх, а мачты пойдуць хадуном і рухнуць. Тут ужо туркам будзе не да змагання. І неўзабаве на "Селіміе" раздаўся аглушальны трэск, усе снасці сталі падаць і грымець. Гэты поспех нібыта акрыліў каманду "Меркурыя". Турэцкаму флагману было нанесена яшчэ некалькі адчувальных пашкоджанняў па корпусе, а ад аднаго трапнага ядра затрашчала і рухнула сярэдняя мачта. "Селіміе", з нахіленым корпусам, лёг у дрэйф.

Камандзір "Рэал-бея", раззлаваны беспаспяховым боем і выхадам са строю "Селіміе", зрабіў асобы манеўр. Яго карабель, даганяючы "Меркурыя", кідаўся то ў адзін бок, то ў другі, пасылаючы па брыгу з кожным паваротам да трыццаці ядраў, — стралялі пушкі аднаго борта. Здалёк магло здацца, што вялікі турэцкі карабель пусціўся ў нейкія п'яныя скокі: паварот, залп правым бортам; паварот, залп левым бортам...

Канчаткова страціўшы прысутнасць духу, туркі перайшлі на карцеч — асколкі забарабанілі па парусах, сталі падаць на палубу. Казарскі не звяртаў увагі на гэты металічны град, нягледзячы на раненне ў галаву. Каранады "Меркурыя" ад няспыннай пальбы адна за адной выходзілі са строю. Турэцкі адмірал заўважыўшы, што агонь рускіх слабее, падыходзіў усё бліжэй.

І тут Казарскаму паведамілі, што порах у крюйт-камеры на зыходзе, а праз прабоіну ў кубрыку ніжэй ватэрлініі няспынна прыбывае вада. "Трэба, каб кананіры стралялі ўдала, а я дапамагу ім, — вырашыў Казарскі, — мы самі падыдзем на пісталетны выстрал. Больш нам чакаць няма чаго і спадзявацца больш няма на што. Наперад, на пісталетны выстрал! Сябры кананіры, за вамі справа!" Голас камандзіра гучаў бадзёра, усяляючы ўпэўненасць у сэрцы матросаў.

Грозна набліжаўся рускі брыг да "Рэал-бея". Пабіты і з маўклівымі гарматамі. На турэцкім караблі ўзнялася неверагодная паніка. Туркі, нарэшце, зразумелі: "Меркурый" зараз счэпіцца з імі і ўзарвецца разам з "Рэал-беем". Звар'яцелыя ад страху туркі пачалі ў паніцы скакаць за борт. Афіцэры і матросы "Меркурыя" моўчкі паглядвалі на свайго капітана.

І вось надышла зручная мінута — цяпер справу вырашаць альбо гарматы брыга, альбо пісталет на парахавым складзе. Раздаўся залп "Меркурыя", і зноў закрычалі ад жаху туркі. Ядры перабілі фок-мачту турэцкага лінкора. Рухнулі парусы — асноўныя і дадатковыя, якія туркі паставілі, даганяючы "Меркурый". Другі карабель непрыяцеля таксама выйшаў з бою і лёг у дрэйф.

"Меркурый", прайшоўшы ўшчыльную каля "Рэал-бея", узяў курс на Севастопаль... Прайшло каля дванаццаці гадзін, як туркі пагналіся за брыгам, і чатыры гадзіны з пачатку жорсткага бою. Праз некалькі дзён газета "Одесский вестник" напіша: "Подвиг сей таков, что не находим другог му подобного в истории мор..лавания. Он столь удивителен, что едва можно оному поверить. Мужество, неустрашимость и самоотвержение, оказанные при сем случае командиром фицерами и экипажем "Ме ия", славнее тысячи побед ообыкновенных".

"Меркурый" ішоў на злучэнне з эскадрай, ледзь трымаючыся на плаву. Толькі ў корпусе маракі налічылі дваццаць дзве прабоіны, каля 300 пашкоджанняў аказалася ў парусной аснастцы. Вада ў трумы няўмольна прыбывала, і Казарскаму давялося паставіць на помпы амаль усю каманду.

Раніцай 15 мая "Меркурый" сустрэўся з эскадрай Чарнаморскага флоту, некалькі караблёў з гонарам правялі гераічны брыг да бліжэйшай гавані — Сізопаля.

Перамога "Меркурыя" вельмі засмуціла турак, а ў Расіі выклікала ўсеагульную радасць. На рускім брыгу былі забіты 4 матросы, а страты, панесеныя непрыяцелем, вылічваліся сотнямі. Але ганьба паражэння, нанесеная рускім брыгам двум турэцкім лінкорам, была невымернай.

Усе афіцэры "Меркурыя" былі ўзнагароджаны ордэнамі і ўзведзены ў наступныя чыны. Казарскі быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-й ступені і стаў капітанам 2-га рангу. Усе "ніжнія чыны" атрымалі Георгіеўскія крыжы, усім афіцэрам і матросам была назначана пенсія. Найвышэйшым указам "Меркурыю" прысвойваўся кармавы Георгіеўскі флаг — вышэйшая ўзнагарода на рускім флоце. Казарскі атрымаў таксама званне флігель-ад'ютанта і быў уключаны ў світу расійскага імператара. Прадпісвалася таксама "по приходе брига в ветхость заменить его новым, продолжая сие до времен позднейших, дабы память знаменитых заслуг брига "Меркурия" и его имя во флоте никогда не исчезли, и, переходя из рода в род на вечные времена, служили примером потомству". Назва "Памяць Меркурыя" прысвойвалася шэрагу караблёў Чарнаморскага флоту: цяпер у складзе Чырванасцяжнага Чарнаморскага флоту Расіі маюцца марскі тральшчык "Казарскі" і гідраграфічнае судна "Памяць Меркурыя"...

Капітан 2-га рангу Казарскі, здаўшы "Меркурый" на "пачынку", камандаваў фрэгатам, пабываў у Англіі для азнаямлення з каралеўскім флотам, затым, ужо ў чыне капітана 1-га рангу, прайшоў па рэках і азёрах з Белага мора да Ладажскага возера, даследуючы магчымасць арганізацыі найкарацейшага воднага шляху з Пецярбурга ў Колу (Мурманск), мінуючы Скандынаўскі паўвостраў; праз 100 год праект Казарскага быў ажыццёўлены і стаў вядомым як "Беламорска-Балтыйскі канал". Не




раз і не два з аказіяй Казарскі наведваў сваё мілае сэрцу Дуброўна. З восені 1832 года ў Адэсе Казарскі рыхтаваў да паходу на Басфор дэсантныя караблі для адмірала М. Лазарава. Ужо 13 сакавіка 1833 года ён дакладваў начальніку Галоўнага марскога штаба А. Меншыкаву аб паспяховым выкананні найвышэйшага даручэння.

Праз тры месяцы, 16 чэрвеня 1833 года капітан 1-га рангу А. Казарскі раптоўна памёр...

Праз паўтара месяца пасля смерці Казарскага пачаўся збор сродкаў на помнік у Севастопалі. Грошы па падпісцы ішлі ад марскіх афіцэраў, што служылі на Чорным і Балтыйскім, Белым і Ахоцкім морах, з Камчаткі і з многіх іншых месцаў неабсяжнай Расіі. Неўзабаве помнік быў адкрыты. Яго аўтар — акадэмік архітэктуры А. Брулоў (1798—1877), брат славутага жывапісца Карла Брулова. Матэрыял помніка — бронза, чыгун, інкерманскі камень. На пастаменце — антычнае судна трырэма, барэльефы А. Казарскага, Нептуна, Меркурыя і Нікі.

Гераічная гісторыя брыга "Меркурый" уразіла фантазію пранікнёнага паэта марской стыхіі, жывапісца І. Айвазоўскага, і ў 1848 годзе ён стварыў вядомую карціну "Брыг "Меркурый" пасля перамогі над двума турэцкімі суднамі сустракаецца з рускай эскадрай". Вось ужо 150 год гэтае палатно пастаянна экспануецца ў Рускім музеі Пецярбурга. На схіле год, у 1892-м, Айвазоўскі зноў вярнуўся да сваёй любімай тэмы і стварыў манументальнае палатно "Брыг "Меркурый", атакаваны двума турэцкімі караблямі" (Дзяржаўная карцінная галерэя І. Айвазоўскага ў Феадосіі). Карціна вельмі лаканічная ў кампазіцыйных і каларыстычных адносінах. Рух караблёў як бы разгорнуты па дыяганалі, і гэта дазваляе адразу ахапіць вокам поле бою. Мастак знайшоў цудоўныя суадносіны сіне-блакітных тонаў мора з шэра-жамчужнымі адценнямі неба — на іх фоне выразна відаць серабрыста-белыя, напоўненыя ветрам парусы баявых караблёў.

У гэтым годзе Чарнаморскі флот Расіі і ўвесь Севастопаль урачыста адзначаюць 200-годдзе з дня нараджэння Аляксандра Казарскага. У Беларусі помняць і шануюць свайго суайчынніка. Яго жыццё было кароткім, але яркім і гучным, як выстрал каранады брыга "Меркурый".

**Валерый ЯРМОЛЕНКА,
доктар геаграфічных навук.**

**НА ЗДЫМКАХ: помнік А. Казарскаму ў Севастопалі; карціна І. Айвазоўскага "Брыг "Меркурый", атакаваны двума турэцкімі караблямі".**

З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ГІСТАРЫЧНЫ АНЕКДОТ

Радзіма гісторыка Льва Казлова — вёска Ліцвінкі, што ў Кобрынскім раёне. Нагадваючы пра гэта, заўважу, што яшчэ ў 1987 годзе ў сааўтарстве з Н. Пліско выдаў Леў Казлоў гісторыка-эканамічны нарыс "Кобрын". Займаючыся ў асноўным гістарычнай картаграфіяй, гістарычным краязнаўствам, вучоны ва ўсе гады рупіўся пра тое, каб гісторыя, доследы па нашай мінуўшчыне станавіліся здабыткам масавага чытача, тых людзей, хто не абавязкова трымае дома падручнікі. Мо таму і зараз, з'яўляючыся прэзідэнтам фірмы "Арты-фэкс", будучы галоўным рэдактарам фундаментальнага выдання "Вялікі гістарычны атлас Беларусі", рэдагуе яшчэ і часопісы "Падарожнік" і "Наш край".

Адзін з цікавых і прыкметных праектаў Льва Казлова — кніга "З дазволу караля і вялікага князя". У свой час — у 1992 годзе — яна пабачыла свет у выдавецтве "Полымя". Сёлета перавыдадзена выдавецтвам "Арты-фэкс". З анатацыі да кнігі, якая сапраўды адрасавана шырокаму колу чытачоў: "Набыўшы гэтую кніжку, чытач зможа зрабіць цікавае падарожжа ў мінуўшчыну, дзе нецярпліва чакаюць вядомыя і невядомыя гістарычныя асобы, што існавалі на самай справе, але з якімі здараліся малаверагодныя ці неверагодныя падзеі. Гэта значыць, што вам у рукі трапіла другое выданне беларускіх гістарычных анекдотаў". Кніга падзелена на наступныя раздзелы — "Усмешкі між летапісных радкоў", "Прыправа да гуманізму", "Рыцары еўрапейскай Сарматыі", "Дасціпны люд паспаліты", "Каранаваныя снапы", "Ад Яся да Стася", "Што дазволена Радзівілу". Ужо назвы раздзелаў тэматычна, хранагалічна акрэсліваюць аўтарскі выбар.

Анекдоты, выразна адлюстроўваючы час, носяць і пэўны выхаваўчы характар. Ад гістарычных анекдотаў, напоўненых, безумоўна, іроніяй і самаіроніяй, патыхае цяплом, святлом, дабрынёю. Няма ў анекдотах жорсткасці, злосці. У якасці прыкладу — некалькі анекдотаў з раздзела "Дасціпны люд паспаліты".

...Па дарозе, што вяла да горада, ехаў верхам на кані шляхціч. А быў ён таўшчэзны, з-за гэтага конь увесь час збіваўся на павольную хаду. Вечарэла і трэба было спяшацца, бо гарадскія вароты на ноч звычайна зачынялі, а тады колькі ні прасі — не прапусцяць.

Калі да брамы было ўжо зусім недалёка, насустрач нашаму вершніку трапіўся селянін на возе, які вяртаўся дадому.

— Паслухай, — звярнуўся да яго шляхціч, — ці змагу я ўехаць у горад?

Селянін, агледзеўшы ўважліва фігуру сустрэчнага, адказаў:

— Я дык з фурай сена праехаў, думаю, ваша мосць неяк праціснецца.

...У краму залезлі злодзеі і выцягнулі адтуль усё, што мела вартасць. Пад канец дзеяння, якое ажыццяўляецца звычайна ўначы, сюды падышоў цэхмайстар з вартай. Яны рабілі апошні абход горада, калі іх увагу прыцягнулі адчыненыя дзверы крамы і нейкі чалавек у сярэдзіне.

— Што тут за справы такія? — прагрымеў цэхмайстар.

— Шаноўны пане, — зараз жа адгукнуўся зл[illegible], узяўшы ў рукі мят[illegible] — вось, прыбіраю. Памёр наш гаспадар, дык трэба ўсё было вынесці ў пакой...

— Але ж не відаць нікога, хто б плакаў па нябожчыку, — няўпэўнена заў[illegible] іў прадстаўнік улады.

— О, пане, плач пачнецца раніцою.

Але, вядома ж, аснову кнігі складаюць зусім не пабытавыя анекдоты, а саркастычныя, іранічныя ілюстрацыі да жыцця, дзейнасці вядомых гістарычных асоб. Працай Льва Казлова з аднолькавым поспехам можна карыстацца і ў школе, і ў мастацкай самадзейнасці.

Прадмову да кнігі Льва Казлова напісаў вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Някляеў. Заўважыў ён, між іншым, і наступнае: "Мяркую, не мне аднаму ў гэтым свеце даводзілася чуць пра тое, нібыта ў беларусаў няма ўласнай сваёй гісторыі. Скуль і з чаго такое меркаванне? Не ў апошнюю чаргу з таго, што шмат якія бліскучыя старонкі менавіта беларускай гісторыі напісаны палякамі, рускімі, літоўцамі, украінцамі — як свае. Адпаведна напісанаму яны і ўспрымаюцца, а мы ўсё неяк толькі самі для сябе і лічымся першадрукарамі.

Не гісторыі нам бракуе, якой хапіла б на некалькі народаў, а напісанага пра яе. І перш за ўсё — напісанага ў жанры міфатворчасці: лёгкага, займальнага, рамантычнага, недагоднага... У французаў гэта ёсць, таму ўсе іх васемнаццаць Людовікаў, хоць аднаму яны самі ж галаву адсеклі, з імі і сёння як жывыя, а тры нашых Жыгімонты паміж нас мёртвыя".

Сапраўды, рамантык Уладзімір Караткевіч зрабіў для вяртання гістарычнай свядомасці шматкратна болей, чым многія гісторыкі разам узятыя. Дык мо і кніжачка Льва Казлова "З дазволу караля і вялікага князя" таксама істотна паўплывае на гістарычнае, нацыянальнае, духоўнае выхаванне айчыннага чытача. Будзем спадзявацца на гэта. Як і на тое, што ўжо наступнае выданне кнігі Льва Казлова пабачыць свет шмат большым, чым зараз, тыражом. Пакуль жа "Арты-фэкс" выпусціў толькі 300 асобнікаў "З дазволу караля і вялікага князя".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

1998-ы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА



**У старажытным Навагрудку ўсё гаворыць аб маючым адбыцца 200-годдзі з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Горад добраўпарадкоўваецца, сцелецца новая тратуарная плітка, да месцаў, звязаных з імем паэта, пракладваюцца камунікацыі, ідуць рэстаўрацыйныя работы на Замкавай гары. Штодзённа ў старадаўні горад прыбываюць сотні турыстаў з Беларусі, іншых краін СНД, Літвы, Польшчы. Гараджане, работнікі музеяў стараюцца іх як мага лепш сустрэць, экскурсаводы расказваюць пра вялікага паэта на многіх мовах свету.**

**НА ЗДЫМКАХ: адзін з скульптурных партрэтаў паэта ў Навагрудскім музеі Адама Міцкевіча; ля ўваходу ў музей заўсёды шматлюдна.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**





**Выхаванцаў Брэсцкага музычнага каледжа цёпла сустракалі на сцэнах не толькі нашай рэспублікі. На трэцім юнацкім міжнародным конкурсе імя Андрэева ў Санкт-Пецярбургу, дзе былі прадстаўлены ўдзельнікі з 60 гарадоў, у сваёй узроставай катэгорыі яны сталі лаўрэатамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у выкладчыка па класу баяна Віктара ШЫМАНОЎСКАГА вучыліся многія цяпер вядомыя музыканты. Новыя яго выхаванцы Сяргей КАРПУК з горада Жабінка (злева) і Дзмітрый СВІШЧОЎ з Брэста сталі лаўрэатамі міжнароднага конкурсу ў Санкт-Пецярбургу; лаўрэат конкурсу імя Андрэева балалаечніца Ганна МАЛЫШУК.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**



МАЛАВЯДОМАЕ ІМЯ

# ПРА БЕЛАРУСЬ ПА-ФРАНЦУЗСКУ

У нашай краіне імя Лявона Рыдлеўскага, аўтара грунтоўнай манаграфіі пра Беларусь пад назвай "BIELORUSSIE. Apercu sommaire de l'Histoire de la Nation bielorussienne et du mouvement de Liberation Nationaleparlung. Dip. L. Rydlevsky, ancien combattant volontaire de l'armee bielorussienne (1920), de l'armee francaise (1939)", сёння ведае хіба што вузкае кола спецыялістаў па беларускай эміграцыі. Аднак гэты чалавек зрабіў сапраўды шмат у справе пашырэння інфармацыі аб нашай Бацькаўшчыне па ўсім свеце.

Біяграфія Л. Рыдлеўскага заслугоўвае асаблівай увагі, бо ён пражыў неардынарнае жыццё, багатае на прыгоды, дзіўныя падзеі. Нарадзіўся ў мястэчку Ульянавічы, размешчаным у Сенненскім раёне Віцебскай вобласці, 2 кастрычніка 1903 года. Бацька Лявона працаваў акцызным чыноўнікам. Цікавасць хлопчыка да беларускага друкаванага слова ўзнікла ў час чытання газеты "Наша ніва", якую выпісвала тады сям'я Рыдлеўскіх. У працэсе выхавання ў Л. Рыдлеўскага ўзмацнілася пачуццё нацыянальнай годнасці. Таму ў 1920 годзе ён стаў удзельнікам Слуцкага вызвольнага паўстання. Лявон напісаў пазней успаміны пра свае тагачасныя баявыя подзвігі...

Пасля заканчэння Віленскай беларускай гімназіі, у якой Л. Рыдлеўскаму ўдалося атрымаць сярэднюю адукацыю, будучы адраджэнскі дзеяч накіраваўся вучыцца ў чэшскую Прагу. Скончыў там у 1928 годзе агранамічны факультэт Політэхнічнага універсітэта з пасведчаннем "інжынера агранамічных навук", год вывучаў сельскагаспадарчую эканоміку на эканамічным факультэце гэтай жа ВНУ. А ў 1929 годзе Л. Рыдлеўскі пераехаў у Францыю. На Бацькаўшчыну ён больш ніколі не вяртаўся.

Л. Рыдлеўскі-эмігрант разгарнуў шырокую грамадскую дзейнасць — стварыў беларускія асяродкі ў гарадах Верпельё, Парыж і інш. З пачаткам другой сусветнай вайны ўвайшоў у шэрагі байцоў французскага Супраціўлення: ваяваць давялося на поўдні Францыі.

Пасля вайны займаўся навукай, згаданую вышэй інфармацыйную кнігу пра Беларусь выдаў у Парыжы ў 1948 годзе. Працягваў грамадскую дзейнасць. А калі быў арганізаваны ў Нью-Йорку Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ, 1951 год), то ўступіў у групу сяброў інстытута. Дапамагаў шукаць — і часта знаходзіў — для БІНіМа важныя архіўныя звесткі, збіраў неабходныя дакументы. З лета 1953 года Л. Рыдлеўскі жыў у Лондане, дзе яго асноўнай працай стала складанне бібліяграфіі беларускіх выданняў, якія захоўваюцца ў Брытанскім музеі, розных бібліятэках горада. Памёр 24 кастрычніка таго ж года.

Скупая інфармацыя, што на сённяшні дзень маецца пра Лявона Рыдлеўскага, дае ўсё ж дастатковае ўяўленне пра жыццёвы і навуковы шлях чалавека, які пакінуў у многіх сваіх знаёмых прыемныя ўражанні, светлыя ўспаміны. Магчыма, больш вядомая асоба гэтага беларускага дзеяча ў Францыі, Вялікабрытаніі, асабліва сярод прадстаўнікоў нашай дыяспары. Бясспрэчна, адтуль можна было б пра многае дазнацца, высветліць шматлікія пытанні... Спадзяёмся: з цягам часу ўдасца паўней расказаць пра аднаго са слынных беларусаў далёкага замежжа.

**Святлана ЯВАР.**

# НЯСВІЖСКІЯ ТАЙНЫ

## МАЎЧЫЦЬ КУРГАН

Курганы — адметнасць Беларусі. Іх шмат, і ледзь не кожны ахутаны таямніцай, авеяны легендамі, паданнямі. Праз іх людзі з надзеяй углядаюцца ў сваё мінулае, стараюцца пазнаць, дакрануцца да яго сэрцам і розумам.

Адзін з такіх курганоў узвышаецца каля дарогі ў нясвіжскую вёску Аношкі. Апалены сонцам, абмыты дажджамі, ён загадкава маўчыць пра тое, што ведае, што тоіць у сабе. Людзі дзівяцца, чаму толькі трава ўкрывае высокую горку, а ніводнага дрэва, ніводнага кусціка на ім ніколі не расло і не расце.

Побач віецца невялікая рачулка. Яна ціха шэпчацца з навіслай з берагоў травой. Калісьці рачулка, несумненна, была паўнаводнай, бурлівай ракой. Убачыш такое — і згадваецца Купала:

**Паміж пустак, балот**
**беларускай зямлі,**
**На ўзбярэжжы ракі**
**шумнацечнай,**
**Дрэмле памятка дзён,**
**што ў нябыт уцяклі,**
**Ўздзіраванелы курган**
**векавечны.**



Гэты курган, як і іншыя на нашай зямлі, вяскоўцы завуць шведскім. Расказваюць, што ў даўнія часы, калі шведы ішлі вайной, тут адбылася жорсткая бітва. Шмат ворагаў палегла. Іх тут пахавалі, над імі насыпалі курган. Такое цалкам верагодна. Карл XII са сваім войскам быў у Нясвіжы, браў замак Радзівілаў штурмам...

Даспявае ў летнім сонцы збажына. У блакіце неба згубіўся і чароўна пяе жаваранак. Вольна, спакойна жыве зямля вакол маўклівага кургана. Нібы чакае, калі людзі зглянуць у яго і адкрыюць тайну.

## ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ



У цэнтры Нясвіжа, дзе высяцца выдатныя архітэктурныя помнікі, прытуліўся непрыкметны домік. Сіратліва выглядае ён побач з велічнымі, пышнымі, вядомымі ледзь не ўсяму свету фарным касцёлам, С[illegible]ай брамай, ратушай, Домікам на рынку.

Але нясвіжцы і яго паважаюць, надзялілі жывучай легендай. Лічаць, што менавіта ў гэтым будынку была друкарня аднаго з беларускіх першадрукароў Сымона Буднага, што якраз у ёй вялікі асветнік у 1562 годзе выдаў "Катэхізіс" — першую кніжку на беларускай мове. Каб даказаць такое, гадоў трыццаць таму была праведзена навуковая экспертыза. Яна выявіла, што дом пабудаваны з цэглы, зробленай пазней, чым паявіўся "Катэхізіс". Значыць, друкарня Буднага не тут была, яна не захавалася.

Аднак жыхарам горада не хочацца ў тое верыць. Калі яны прызначаюць месца для спаткання альбо паказваюць прыезджаму дарогу, то гавораць:

— Каля друкарні Сымона Буднага.

Народ з легендамі не развітваецца. Людзі ім вераць.

## ТОЙ САМЫ ФАДЗЕЙ

З захапленнем госці Нясвіжа любуюцца велічным фарным касцёлам, збудаваным у 1593 годзе, яго ажурным знешнім выглядам, непаўторным роспісам столі і сцен, які можна ўбачыць толькі тут. Уражаныя магутнасцю будынка, яго прыгажосцю, людзі не звяртаюць увагі на невялічкую будынінку побач. А яна — незвычайны помнік.

Са школьнай парты мы ведаем пра Фадзея Булгарына — літаратара, які пакінуў пра сабе нядобрую памяць, выслужваючыся перад уладамі, зневажаючы прагрэсіўных пісьменнікаў. Карані яго не толькі ў Балгарыі, але і ў Нясвіжы.

Дзед Фадзея, з роду героя Албаніі — Скандэрбега (мянушка Булгарын), паявіўся ў Нясвіжы пасля таго, як на спустошаную войнамі беларускую зямлю запрасілі ўсіх, хто пажадае. Ім далі вялікія прывілеі. Дзед быў гарачы. Пасварыўшыся з суседам, забіў яго. Узнік канфлікт з Радзівілам Пане Каханку з-за таго, што Скандэрбег, каб замаліць свой грэх, пабудаваў каля касцёла капліцу, у якой маліўся днямі і начамі. Урэшце князь і Булгарын памірыліся. Капліца засталася, у ёй, па некаторых сцвярджэннях, і пахаваны Булгарын-дзед. А ўнук стаў тым самым Фадзеем Булгарыным. Так што ў Нясвіжы, як гаворыцца ў легендах і паданнях, бываў не толькі славуты Аляксандр Пушкін, але і яго праціўнік Фадзей Булгарын.



Неразгаданымі застаюцца дзве тайны: ці наведаў Пушкін Нясвіж і ці пахаваны ў капліцы каля фарнага касцёла дзед Фадзея Булгарына.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

**31 жніўня ўвесь зямны шар будзе адзначаць сумную дату: гадавіну са дня гібелі "жанчыны свету" — цудоўнай і непаўторнай прынцэсы Дзіяны... Нікога не пакідала раўнадушным яркая асоба Дзіяны, яе дабрыня, шырокая грамадская дзейнасць... Нікога не пакінула раўнадушным і яе смерць у росквіце сіл... Песня беларускіх аўтараў Міхася Ясеня і Валянціны Сярых "Дзіяна" — даніна памяці незабыўнай жанчыне.**

**Напярэдадні сумнай даты пасольства Вялікабрытаніі ў Беларусі перадало клавір песні ў Лондан — родным і блізкім прынцэсы, каб яны ведалі, што і беларускія людзі не забываюць пра Дзіяну і шануюць яе імя.**

**Прапануем песню нашым чытачам.**

# ДЗІЯНА

*Памяці прынцэсы Дзіяны.*

**Словы М. ЯСЕНЯ** **Муз. В. СЯРЫХ**




**Крычалі ў Парыжы экраны.**
**На лонданскіх хвалях навіны.**
**...Загінула лэдзі Дзіяна...**
**Аварыя з аўтамашынай...**
**Сенсацыі хопіць для прэсы.**
**Сумуюць не толькі мужчыны.**
**Загінула сэрцаў прынцэса!**
**Загінула свету Жанчына!**

**ПРЫПЕЎ: Прынцэса Дзіяна,**
**Навошта пайшлі Вы так рана!**
**Быў толькі пачатак рамана...**
**Дзіяна... Дзіяна...**
**Прынцэса Дзіяна,**
**Быў толькі пачатак рамана...**
**Навошта пайшлі Вы так рана!**
**Дзіяна... Дзіяна...**

**Ад зайздрасці, плётак і злосці**
**Ніяк мы не можам схавацца.**
**Яе маладосць з прыгажосцю**
**Купаліся ў моры авацый.**
**Яе абкружала пашана,**
**Каханне мільёнаў, багацце...**
**І толькі не мела Дзіяна**
**Свайго асабістага шчасця.**

**ПРЫПЕЎ.**

**У Лондан імчаць тэлеграмы.**
**Там сум у дамах і палацах.**
**А недзе яшчэ закаханых**
**Вартуюць ізноў папарацы.**
**Гучыць на зямлі недзе скерца.**
**У гневе кіпяць акіяны.**
**У свету разбітыя сэрцы.**
**Не будзе больш з намі Дзіяны...**

**ПРЫПЕЎ.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».**
**(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1303.**
**Падпісана да друку 13. 07. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**